ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 38 (2336) 23 верасня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

## ЦІ ЎТРЫМАЕЦЦА Ў СЯДЛЕ КОННІК?

Кожная падзея адбываецца ў сваім часе. Гэтая — таксама мае канкрэтны дзень: 10 верасня 1993 года. На будынак былога ўсемагутнага і ўсепануючага ЦК КПБ, цяпер занятага і абжытага ўжо Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, нарэшце ўзнялі і прымацавалі "Пагоню". Нарэшце, бо занадта ўжо марудна здымаюцца ў нас старыя сімвалы, пад якімі народ крочыў да светлай явы камунізму, і замяняюцца новымі. Цяпер, здаецца, усё ў парадку, усё дапасавана: дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь пад бел-чырвона-белым дзяржаўным сцягам на гмаху, дзе месціцца вышэйшая заканадаўчая ўлада рэспублікі. Усе атрыбуты суверэннасці навідавоку...

Ды неспакойна на сэрцы. Чую, як адзін дэпутат, выступаючы па нацыянальнаму радыё, гаворыць: "Вядома ж адзіная рублёвая зона — гэта ўжо пэўная страта незалежнасці. Але затое мы будзем жыць лепей!" Чытаю, што сказаў наш прэм'ер на пасяджэнні Савета Міністраў: так, у тымсім прыйдзецца ўступіць Расіі, але без яе нам не выжыць...

Дык ці не прыйдзецца нам здымаць "Пагоню"? Кангрэс народа Беларусі, які адбыўся 11 верасня і на якім дэпутат Лукашэнка патрабаваў адсюль, з Беларусі, пачаць аднаўленне СССР, вынес ужо прысуд нашым нацыянальным дзяржаўным сімвалам: замяніць на былыя савецкія. І калі за рашэнні кангрэса, як за выратавальную саломінку, хапаецца наш прэм'ер, міжволі працінае трывога: куды ідзеш, Беларусь? Куды цябе вядуць твае дзяржаўныя мужы?

Ян ГІЛУЦЭВІЧ.



Фота Віктара СТАВЕРА.

## О ЗЛІТУЙСЯ, БОЖА, НЕ ДАЙ ІМ ПАКУТ



Гора ўвайшло ў сям'ю Лышчышыных нечакана. А хіба яно бывае чаканым? Каця захварэла на лейкемію. Спынілася і засталося за неадольнай мяжой дзяцінства. Як хутка хворыя дзеці робяцца дарослымі. Каб пераканацца ў гэтым, трэба толькі зазірнуць ім у вочы. Каця ніколі не пісала вершаў. Але вось аднойчы пасля чарговага крызісу прадыктавала маці на адным дыханні сваё "О Божа, за што ты мяне пакараў?"

Зараз закончыўся самы доўгі і знясільваючы этап лячэння, пасля якога яна згубіла валасы і мусіць насіць парык. Каця вярнулася дадому, але ёй патрэбна падтрымка, патрэбны новыя сябры. Яе адрас: 211004, Віцебская вобл., г. Орша, п/а Балбасава, 386-7. Каці Лышчышынай.

(Рэпартаж з анкагематалагічнага цэнтра змешчаны на 4-й стар.).

## НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ ПАЎЛІНЫ МЯДЗЁЛКІ

### "РАТУЙЦЕ ГАЛОДНЫХ ВУЧЫЦЯЛЁЎ..."

Той, каму даводзілася бліжэй знаёміцца з лёсам Паўліны Мядзёлкі паводле даўно вядомай у культурным жыцці краіны кнігі яе ўспамінаў "Сцежкамі жыцця" (выйшла ў 1974 годзе праз некалькі месяцаў пасля смерці аўтаркі) і апублікаваных сёлетняй зімою ў "Полымі" нататках-дапаўненнях (згодна з воляй той самай аўтаркі не раней, чым праз 20 гадоў пасля яе смерці), не мог не заўважыць, што сама Мядзёлка найбольш ставіла сабе ў заслугу не выкананне галоўнай ролі ў несмяротнай купалаўскай камедыі "Паўлінка" (1913 год) ці Зоські з "Раскіданага гнязда" ў пастаноўцы Першага Таварыства беларускай драмы і камедыі ў Менску (1918 год) пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча, які "намучыўся" з Паўлінаю, бо сам, будучы прафесіяналам, "працаваў гадзінамі асобна з кожным акцёрам, вымотваў усе жылы і сам стамляўся да поўнага знемажэння", а шчыраванне на ніве настаўніцтва. Наогул, пра свае акцёрскія здольнасці выказвалася сціпла.

Бо іншае наканавалі ёй вераснёвыя зоры ў часіну народзінаў (пра блытаніну з датай нараджэння П. Мядзёлкі выкажамся ніжэй).

"Змалку я не здатна была ні да хатняй гаспадаркі, ні да чыста жаночай ручной працы. Мяне вабілі кнігі і толькі кнігі..." — скупа напіша Паўліна Вінцэнтаўна менш чым за год да смерці ў яшчэ адным, на сённяшні абсалютна невядомым шырокаму чытачу варыянце ўласных мемуараў. Прывяду з іх наступны абразок.

"Мне было 12 гадоў, калі ў нашай хаце стварылася нелегальная школа: да нас прыходзіла 10 дзяўчынак і хлапчукоў, якіх я навучала першапачатковай грамаце. Плацілі мне па рублю ў месяц, а да двух багацейшых хлапчукоў я хадзіла на дом іх вучыць, і там плацілі мне 3 рублі ў месяц. Такім чынам я зарабляла ўдвая больш, чымся бацька. Свой заробак я клала на кніжку ў касу ашчаднасці на той выпадак, каб на свае грошы паехаць куды вучыцца..."

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЦВЁРДАЯ ПАЗІЦЫЯ*

## БЕЗ РАСІІ НЕ ПРАЖЫЦЬ

**Пацвярджаючы сваю адданасць ідэі эканамічнага саюза з Расіяй, Старшыня ўрада Беларусі В.Кебіч заявіў адкрыта на пасяджэнні Савета Міністраў, што супраць такога саюза выступаюць тыя, каму хочацца, каб людзі пачалі жыць яшчэ горш, чым жывуць цяпер. Ён выказаў гатоўнасць падпісаць двухбаковы дагавор з Расіяй, паколькі Расія з'яўляецца для нас адзінай у свеце крыніцай задавальнення нашых энергетычных патрэбнасцей. Нават калі б Беларусь дастаткова мела цвёрдай валюты, мы не змаглі б купіць тую ж нафту нідзе, акрамя Расіі, бо здабыча і продаж нафты ў свеце даўно рэгламентаваны і жорстка кантралююцца ОПЕК. У той жа час, імкнучыся да падпісання эканамічнага саюза, урад Беларусі стараецца займаць гібкую пазіцыю, не выступаць у ролі разбуральніка СНД.**

**Адзначыў прэм'ер-міністр і змяненне палітычных настрояў у рэспубліцы. Нарастае імкненне людзей да аднаўлення дружбы і супрацоўніцтва народаў былога СССР і ўзнаўлення Саюза на новай аснове. У прыватнасці, ён спаслаўся на думкі, якія прагучалі на Кангрэсе народаў Беларусі і з якімі немагчыма, на яго думку, не лічыцца. В.Кебіч адхіліў сцвярджэнні, што саюз з Расіяй пагражае суверэнітэту рэспублікі. Так, у сім-тым нам прыйдзецца ўступіць, але тое ж самае робіць і Расія. І гэта лагічна. Не бывае такога становішча, калі ўсе толькі выйграюць за кошт іншых.**

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

## РАСІЙСКІ РУБЕЛЬ СТАНЕ ПАНАМ

**“Падпісанае ў Маскве пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі — гэта, па сутнасці, не проста грашовы саюз, а саюз эканамічны”, — заявіў на прэс-канферэнцыі, якая праходзіла 10 верасня ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, яго старшыня Станіслаў Багданкевіч. Паводле слоў старшыні, падпісанае пагадненне прадугледжвае уніфікацыю эканомік дзвюх дзяржаў, а гэта і ёсць эканамічны саюз.**

**Падпісаны дакумент прадугледжвае пераходны перыяд, які, паводле ацэнкі спецыялістаў, працягнецца мінімум да студзеня будучага года. Ён прадугледжвае уніфікацыю асноўных прынцыпаў рэгулявання эканомікі, стварэнне адзінай мытнай тэрыторыі і адзінага гандлёвага рэжыму ў адносінах да трэціх краін. Калі ўсе гэтыя ўмовы будуць выкананы, то будуць зняты і гандлёвыя абмежаванні паміж дзвюма краінамі. І толькі пасля гэтага можна будзе сказаць, што адзіная грашовая сістэма Беларусі і Расіі пачала дзейнічаць. А гэта азначае, што пасля заканчэння пераходнага перыяду наш “зайчык” стане паступова выключацца з абарачэння, уступаючы месца расійскаму рублю.**

**Адзіная грашовая сістэма прадугледжвае уніфікацыю цэн. Акрамя таго, у нас з Расіяй будуць адзіныя падаткі, якія будуць уплываць на цэнаўтварэнне, а таксама адзіныя падыходы і метады ў рэгуляванні даходаў насельніцтва і адзіныя правілы сацыяльнай абароны насельніцтва.**

**У заключэнне прэс-канферэнцыі, як паведамляе Белінфарм, кіраўнік Нацыянальнага банка яшчэ раз падкрэсліў, што падпісанае пагадненне не ўшчамляе суверэнітэту Беларусі, а служыць толькі інтарэсам эканомікі рэспублікі.**

**Вось гэтыя заклінанні і выклікаюць трывогу, дададзім ад сябе.**

*ЗОНА І СУВЕРЭНІТЭТ*

## ПАРАТУНАК ЦІ ЗДРАДА?

**— Мы маем у рэспубліцы крызіс, глыбіня якога ні з чым не параўнальная, — сказаў 15 верасня Станіслаў Шушкевіч на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які сабраўся, каб абмеркаваць пытанні фінансавага становішча ў рэспубліцы і ход ажыццяўлення грашова-крэдытнай палітыкі ў Беларусі.**

**Аб''ём вытворчасці тавараў знізіўся на 15 працэнтаў у параўнанні з такім перыядам года мінулага. Беларусь поўнасцю залежная ад цэн на расійскія энергарэсурсы. Дысбаланс у фінансах паміж Беларуссю і Расіяй складваецца яўна не на карысць нашай рэспублікі. Таможныя і тарыфныя пошліны на закупляемыя ў Расіі метал, нафту, газ, мазут павялічваюць кошт беларускіх тавараў у некалькі разоў.**

**Наколькі выратавальным можа выглядаць у даным выпадку шасцібаковае пагадненне дзяржаў Садружнасці аб стварэнні адзінай рублёвай зоны новага тыпу! Меркаванні на гэты конт былі процілеглымі. Калі прадстаўнікі Савета Міністраў бачаць у пагадненні выратаванне ад большасці бед і магчымасць вывесці эканоміку на больш стабільны ўзровень, то прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі назвалі яго не чым іншым, як “адкрытай здрадай у адносінах да народа Беларусі і магчымасцю поўнай страты дзяржаўнасці”. На думку дэпутата Пазьняка, пагадненне аб стварэнні адзінай рублёвай зоны можа быць ратыфікавана толькі ў выпадку ліквідацыі Беларусі як дзяржавы. Усю адказнасць за гэта ён усклаў на ўрад рэспублікі.**

*КАРУПЦЫЯ*

## УЛАДА І КАМЕРЦЫЯ

**Абуральныя факты аб карупцыі і іншых злоўжываннях у Магілёўскай вобласці сабрала часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур, створаных пры органах улады і кіравання. Аб гэтым заявіў старшыня камісіі народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка на праведзенай абласной нарадзе работнікаў праваахоўных органаў, кантрольных службаў і кіраўнікоў мясцовых Саветаў. Некалькі спраў ужо вывучаецца, але канкрэтныя адрасы і прозвішчы, за выключэннем ужо вядомых, абнародаваны не былі. У вобласці намечана стварыць такую ж камісію, якая атрымае мандат і ўсе паўнамоцтвы рэспубліканскай.**

*НАВІНЫ З ГЛЫБІНКІ*





**Чацвёрты год на базе Клецкай раённай бальніцы працуе аддзяленне традыцыйных народных метадаў дыягностыкі і лячэння многіх хвароб. Тут дзейнічаюць кабінеты — лячэбнай касметыкі, фіта- і ірыдадыягностыкі, апітэрапіі — лячэнне з дапамогай укусаў пчол і пчалапрадуктаў, гамеапатыі і аптэка народнай медыцыны, дзе рыхтуюць прэпараты з лячэбных траў і пчалапрадуктаў.**

**Хворых стацыянара тут абслугоўваюць бясплатна, а за лячэнне амбулаторнае трэба плаціць. Але, нягледзячы на гэта, пацыентаў у медыкаў аддзялення з кожным годам прыбаўляецца. Толькі ў фітакабінеце прайшлі курс лячэння каля 5 тысяч хворых, а 200 дзяцей, што стаяць на дыспансерным уліку, — прафілактычнае аздараўленне. На лячэнне сюды прыязджаюць хворыя з усяго раёна. На тэрыторыі бальніцы ёсць свой невялікі пчальнік і ўчастак зямлі, дзе вырошчваюць разнастайныя лекавыя травы.**

**НА ЗДЫМКАХ: урач апітэрапеўт Васіль БЕЛЯКОВІЧ адбірае пчол для чарговага лячэбнага сеанса; гаючыя чаі з лекавых траў у фітакабінеце гатуе для хворых фармацэўт Валянціна АЎДЗЕЙ.**

*ШАЎКАПРАД З ІВАЦЭВІЧ*



**Хто з нас не чуў аб славутым тутавым шаўкапрадзе, што паўсюдна культывуецца на Усходзе. Але каб у Беларусі! Аказваецца, можна. Гэта даказалі вучоныя Віцебскай праблемнай навуковай лабараторыі. Праўда, давялося крыху “перавыхаваць” капрызнага шаўкавічнага вусеня. А з-за адсутнасці ў нас тутавых дрэў “навучыць” яго харчавацца лістамі дуба, бярозы, лазы.**

**З'явілася і гаспадарка, якая вырашыла рызыкнуць адкрыць у сябе нязвыклую вытворчасць, — аграфірма “Беларусь” Івацэвіцкага раёна. У мінулым годзе тут сабралі 237 кілаграмаў кокана, а сёння расшырылі вытворчасць і намячаюць атрымаць паўтары тоны гэтага прадукта для вырабу шаўковай ніці. Адна тона кокана шаўкапрада на сусветным рынку каштуе 120 тысяч долараў. Калі ўдасца, то галіна будзе расшырацца і далей, намячаецца закупіць ва Узбекістане неабходныя машыны і выпускаць у сябе гатовую прадукцыю.**

**НА ЗДЫМКУ: навуковы кіраўнік тэхналогіі гадавання вусеняў шаўкапрада ў аграфірме, супрацоўнік Віцебскай навуковай праблемнай лабараторыі Наталля ЛОБКІС.**

*РЭХА ВАЙНЫ*

## АЧЫШЧАНА АД МІН

**За некалькі пасляваенных гадоў на мінных палях, што засталіся ад вайны ў Дубровенскім раёне Віцебшчыны, загінула прыкладна 350 мірных жыхароў, у тым ліку шмат дзяцей і падлеткаў, а многія засталіся калекамі на ўсё жыццё. І толькі сёлета па распараджэнню ўрада Беларусі сапёры прыступілі да размініравання 4 500 гектараў сельгасугоддзяў. Яны ачысцілі 1 019 гектараў зямельных угоддзяў. Выяўлена і знішчана 265 процітанкавых і 630 супрацьпяхотных мін, 1 963 артылерыйскія снарады, 2 246 мінамётных мін, 2 539 гранат, 35 843 узрывальнікі і патроны. Размініраванне працягнецца і ў наступным годзе.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЮРО ЦК Саюза моладзі Беларусі падтрымала ініцыятыву Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і заклікала Вярхоўны Савет рэспублікі пацвердзіць сваё рашэнне аб датэрміновых парламенцкіх выбарах вясной 1994 года.

ПЯЦЬ з паловай гадзін змагаліся ваенныя і грамадзянскія пажарнікі з буйным пажарам, што адбыўся 1 верасня на 286 кіламетры прадуктаправода Альмецьеўка-Вентспілс, непадалёк ад Оршы. Пажар узнік па віне двух нецвярозых работнікаў Дзісенскай ліцейна-вытворчай станцыі.

У МАГІЛЁВЕ 8 верасня ў час святкавання Дня вайсковай славы міліцыянеры напалі на некалькіх актывістаў Беларускага народнага фронта і спрабавалі іх ізаляваць. Па волі высокага міліцэйскага начальства сутычкі ахоўнікаў парадку з дэманстрантамі былі спынены.

СУСВЕТНЫ банк пакуль што не жадае даць Беларусі абяцаную пазыку 500—700 мільёнаў долараў. Праблема заключаецца ў тым, што ў нашай дзяржаве занадта марудна ідуць рэформы, у прыватнасці, недастаткова выконваюцца заканадаўчыя акты аб прыватызацыі.

ПАВЫШАНУЮ цікаўнасць праяўляюць работнікі пасольства ЗША ў Маскве да грамадзян Беларусі, якія выязджаюць у Амерыку па службовых справах. Перад тым як аформіць візы на выезд, у пасольстве праводзяць абавязковую гутарку, у час якой імкнуцца выведаць эканамічныя звесткі аб нашых прадпрыемствах і арганізацыях.

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ аповесць “Пётр Машэраў” Славаміра Антановіча, якая выйшла нядаўна, ставіць кропку на версіях, меркаваннях, домыслах аб “палітычным забойстве” Машэрава — былога першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі. Праўдзівыя факты і сведчанні аб жыцці лідэра беларускіх камуністаў аўтар раздабыў у архівах, пачуў ад тых, хто блізка ведаў П.Машэрава.

## ГРОШЫ, ІДЭАЛОГІЯ І КУЛЬТУРА

# ХТО ЗАКАЗВАЕ СІМФОНІЮ?

ПАДЗЕЯ, якая адбывалася ў Фондзе дапамогі развіццю культуры, калі я туды прыйшла, была невялікая, але ж значная. Асабліва для Віктара Бардунова, беларускага спевака, які прымаў удзел у фестывалі "Славянскі базар", дзе і атрымаў прыз фонду "Надзея беларускай песні". Хлопец быў зусім непадобны на ўзыходзячую зорку, вельмі хваляваўся і чырванеў.

— Гэтага хлопца мы ўжо не забудзем, — запэўнілі мяне ў фондзе. — І будзем сачыць за яго кар'ерай, спатрэбіцца — дапаможам, як і многім іншым таленавітым маладым людзям, што прыходзяць да нас.

Створаны Фонд дапамогі развіццю культуры ўсяго два гады таму. Нарадзіўся ён як ініцыятыва прыватных прадпрымальнікаў, якія і прадаставілі фонду свае грошы. Сярод пачынанняў, убачыўшых свет з дапамогай гэтай арганізацыі, — выданне кніг "Біблейскія легенды" і "Мелодыя Каліграфа" (пра якую, дарэчы, зусім нядаўна пісала наша газета), а таксама вельмі цікавага і прыгожага даведніка "Мінск", прызначанага для гасцей нашага горада. Невялікае па аб'ёму выданне змяшчае ў сабе шмат карыснай інфармацыі аб культурным, дзелавым, рэлігійным жыцці горада, яго прамысловасці, гісторыі, эканоміцы. Калі сюды дадаць, што выданне перакладзена на рускую, французскую, нямецкую і англійскую мовы, стане зразумела, што кніга будзе цікавай і карыснай для ўсіх гасцей Мінска. Таксама пры дапамозе фонду зараз здымаюцца два мастацкія фільмы — "Вяртанне "Браненосца" вядомага рэжысёра Генадзя Палокі і "Абяцанне любві", яго здымае Алаіз Брэнч. Так, кіно зараз перажывае не самы лепшы свой час. Але калі нават увогуле ніхто не будзе ім цікавіцца сёння — кіно ўсё роўна трэба здымаць, так лічаць у фондзе. Чаму? Ды таму, што заўтра яно абавязкова спатрэбіцца, і тады і гледачы, і кінамастакі рызыкуюць апынуцца на пустым месцы. Тое ж самае тычыцца народнай творчасці: каб не давялося ў хуткім часе складаць Чырвоную кнігу народных рамёстваў, трэба дапамагчы тым, хто займаецца традыцыйнымі промысламі. Але ж "накарміць" сёння ўсіх народных майстроў не зможа нават самая багатая ўстанова. Іншая справа, узяць на сябе хаця б праблему рэалізацыі іх твораў, што таксама будзе дзейснай дапамогай. Менавіта гэтым і будзе займацца галерэя народнай творчасці "Арт Эка", якая зараз ствараецца пры дапамозе фонду.

— Мы падтрымаем кожнага, хто зацікавіць нас сваімі ідэямі, хто дакажа, што яны вартыя таго, каб укладаць у іх грошы, — гавораць у фондзе. Сёння гэта ўжо даказалі стваральнік галерэі народнай творчасці Юрый Іваноў, ваенна-патрыятычны клуб, члены якога шукаюць загінуўшых у час вайны і выяўляюць іх імёны, клуб аэробікі "Багіра", рэжысёры і мастакі. У планах — фестываль рэтра-кіно, на якім можна будзе пабачыць як беларускія, так і замежныя фільмы трыццаці-, саракагадовай даўнасці, стварэнне гарадскога тэлеканала.

Усё гэта добра, і мы ўжо не раз расказвалі на старонках нашай газеты аб узаемадзеянні культуры і бізнесу. Адны назавуць гэта супрацоўніцтвам, другія — залежнасцю, але ж дазвольце нагадаць, што, раней, калі культурай кіравалі толькі дзяржаўныя структуры, крытэрыем, па якому выдзяляліся грошы на фільм ці на закупку карцін, таксама не заўсёды быў талент. Інакш наўрад ці быў бы такім доўгім спіс дзеячаў культуры былога СССР, пахаваных ці працуючых зараз за мяжой. Сёння сітуацыя змянілася, з'яўляюцца дабрачынныя фонды ці проста заможныя людзі, якія могуць самастойна фінансаваць тыя ці іншыя пачынанні. Словам, дзяржаўная манаполія на культуру скончылася. Радавацца гэтаму ці смуткаваць, што наша культура будзе залежаць, як пісаў некалі Ленін у артыкуле "Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура", ад мяшка з грашыма? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ўспомніць, што той жа аўтар у тым жа артыкуле некалі сцвярджаў, што літаратура павінна быць часткай агульнапартыйнай справы і гэтай жа справе служыць. Такім чынам, вызваляючы мастацтва з палону грошай, ён асуджаў яго на яшчэ горшую залежнасць — ідэалагічную. У мастака фактычна было два шляхі — станавіцца ў апазіцыю да існуючага ладу, што азначала творчую, а часам і фізічную смерць, ці пакорліва выконваць так званы "сацыяльны заказ". Так што быццам бы ўсё зразумела: новыя структуры даюць новыя магчымасці, што ўжо само па сабе добра, думала я. І пытанне — што лепш: калі лёс культуры залежыць ад волі ідэалагічнага аддзела ЦК ці мецэната альбо ўстановы, якая мае грошы, задала хутчэй для парадку. Таму і здзівіў адказ прэзідэнта Фонду дапамогі развіццю культуры Міхаіла Зусмановіча:

— Хацелася б сказаць: ад тых, у каго грошы, ды неяк не гаворыцца. Грошы сёння ў розных людзей бываюць, зараз з'явіліся маладыя хлопцы, якія "зрабілі" мільёны на гарэлцы і цыгарэтах і лічаць, што могуць купіць усё. Такія бізнесмены горш за любых ідэолагаў будуць.

Там жа, у фондзе, мне прыгадалі, як зусім нядаўна, падчас тэлевізійнай перадачы, вядомаму акцёру Рамашыну на вачах у дзесяткаў мільёнаў тэлегледачоў у якасці падарунка паднеслі... хатні нумар тэлефона фотамадэлі. Прычым, падарунак гэты ўручаў не хто-небудзь, а прэзідэнт вядомага і паважанага Дзягілеў-Фонду. У такой сітуацыі міжволі ўспомніш добрым словам партыйных дзеячаў, якія ў падобных выпадках "абмяжоўваліся" званнем народнага ці заслужанага артыста.

— Гадамі займаючыся пытаннямі, звязанымі з мастацтвам, гэтыя людзі, партыйныя функцыянеры, у рэшце рэшт пакрысе пачыналі ў ім разбірацца...

— Тады, можа, хай бы яны разбіраліся і далей? — запыталася я. — Калі ўсё было так добра, дык навошта сёння патрэбны такія фонды, як ваш?

— Фонд, па-першае, у адрозненне ад ідэалагічнага аддзела ЦК ні ў якім разе не будзе душыць нейкія культурныя пачынанні. Так, мы можам даць грошы на нейкую акцыю, а можам і не даць. Але мы не адбіраем магчымасці шукаць іх у іншым месцы, у адрозненне ад былых партыйных структур, якія, калі ім нешта не падабалася, перакрывалі ўсе шляхі. Па-другое, мы дапамагаем асобным камерсантам і камерцыйным структурам, што даюць нам грошы, не выглядаць купцамі і выхаваць густ. Як? У фондзе ёсць кваліфікаваныя эксперты, яны заўсёды дадуць даведку, варта ці не ўкладваць грошы ў культурныя ініцыятывы, параяць, якую карціну купіць, каб упрыгожыць офіс ці кватэру і адначасова ўкласці грошы, і многае іншае. Фонд дае магчымасць мастаку жыць і тварыць незалежна ад таго, ёсць зараз у дзяржавы грошы на культуру ці не. Між іншым, адзіная сімфонія, якая была напісана ў мінулым годзе ў Беларусі, — твор Уладзіміра Кандрусевіча — была створана па заказу фонду, мы яе аплацілі. Чаму? Ды таму, што сімфоніі павінны пісацца незалежна ад таго, ёсць сёння на гэта грошы ў дзяржавы ці не. І паверце, у нас у якасці прыза ці падарунка нумар тэлефона фотамадэлі не ўручаць...

— Але ж той, хто дае грошы, можа пачаць "ціснуць" на вас, вызначаць палітыку фонду?

— Ведаеце, у Фондзе Ракфелера не Ракфелер вырашаў лёс культурных праектаў, а эксперты фонду. Таму, магчыма, гэты фонд і стаў славутым. У гэтым — поспех, а не ў камандных метадах. Спадзяёмся, што нашы бізнесмены гэта разумеюць.

— Не баіцеся прапусціць нешта цікавае і неардынарнае?

— Адзін з прынцыпаў фонду: мы людзі, у кожнага — свае густы. Можам быць і суб'ектыўнымі, і не заўважыць нечага новага, рэвалюцыйнага. Ад памылак не застрахаваны ніхто. Таму 10 працэнтаў сродкаў фонду ідзе на тое, што... нікому не спадабалася. Між іншым, хачу нагадаць, што Міністэрства культуры па-ранейшаму працягвае існаваць і працаваць. І мы яму не канкурэнты, бо чым болей будзе тых, хто займаецца культурай, тым лепш будзе для культуры, эканомікі, рэспублікі Беларусь і нас з вамі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ





**Кірмаш рабочых вакансій адбыўся ў мінскім Палацы культуры чыгуначнікаў.**

**Яшчэ колькі гадоў назад мы не ведалі гэтай пакутлівай і зневажаючай чалавечую годнасць праблемы — беспрацоўя. Усюды быццам бы былі патрэбны працавітыя рукі, веды. І вось людзі пастаўлены ва ўмовы, калі яны вымушаны стаяць у чарзе, абіваць парогі, каб знайсці работу, не застацца без сродкаў да існавання.**

**Сотні гараджан запоўнілі прасторныя холы. Прабіцца да спецыялістаў цэнтра занятасці насельніцтва, прадстаўнікоў прадпрыемстваў аказалася далёка не проста. І гэта не дзіўна: армія беспрацоўных расце. Сумны і іншы факт: сярод спаборнікаў на рабочыя месцы у асноўным моладзь і спецыялісты з вышэйшай адукацыяй.**

**Кірмаш паказаў, што такія мерапрыемствы патрэбны і праводзіць іх трэба часцей.**

**Здымкі зроблены ў час працы кірмашу рабочых вакансій.**

**Фота А.ТАЛОЧКІ.**

СУМНЫ РЭПАРТАЖ З АНКАГЕМАТАЛАГІЧНАГА ЦЭНТРА

# О ЗЛІТУЙСЯ, БОЖА, НЕ ДАЙ ІМ ПАКУТ

Рэспубліканскі анкагематалагічны цэнтр. Тыя, каго напаткала няшчасце — чые дзеці захварэлі на лейкемію, добра ведаюць гэты шпіталь. Трапляюць сюды дзеці ва ўзросце ад некалькіх тыдняў да 25 гадоў. Няма яшчэ дакладнай статыстыкі па захворванню, але відавочна, што колькасць выпадкаў лейкозу павялічваецца. Пашыраецца і геаграфія. Усё часцей сюды трапляюць пацыенты з Гродзенскай і Віцебскай абласцей — зонаў, якія раней лічыліся чыстымі. Можна тут сустрэць дзетак з розных куткоў былога Савецкага Саюза.

Знешне цэнтр амаль што нічым не адрозніваецца ад шэрагу іншых нашых шпіталяў: не вельмі прывабныя пакоі, калідоры. Але абсталяванне ў ім такое, што яму могуць пазайздросціць нават некаторыя заходнія клінікі.

Аб тым, як вядзецца праца ў цэнтры, яго праблемах і далейшай дзейнасці вяла я гутарку з загадчыкам аддзялення інтэнсіўнай тэрапіі і рэанімацыі Ігарам Дунаевым, які на той час выконваў і абавязкі дырэктара цэнтра.

— Пачынаючы з 1990 года ў накірунку дзіцячай гематалогіі быў зроблены крок аж на 20 гадоў наперад, — так даволі аптымістычна пачаў ён нашу размову. — Вядома, што гэта было б немагчыма без дапамогі з-за мяжы. Мы яе атрымалі з Швейцарыі, Італіі, Англіі, Аўстрыі. Асабліва тут трэба адзначыць дапамогу з нямецкага боку і доктара Герайна, у прыватнасці, які стварыў у сябе на радзіме таварыства "Kinder aus Tchernobyl". Потым з яго дапамогай былі сабраны грошы, на якія закупілі ультрасучаснае абсталяванне, лекі, іншыя неабходныя рэчы. Арганізавана перападрыхтоўка і навучанне персаналу. Усё гэта адразу адкрыла новыя магчымасці ў барацьбе з хваробай. Зараз, напрыклад, пры ўмове поўнага забеспячэння лекамі мы можам дабіцца поспеху ў 70—75 выпадках са ста ў хворых на востры лімфабластны лейкоз ( у Нямеччыне 85 працэнтаў). Што тычыцца іншых, больш злаякасных відаў лейкеміі, статыстыка там, на жаль, значна горшая. Лячэнне доўгатэрміновае. Часам не хапае лекаў. Фінансавыя магчымасці нашых сяброў таксама абмежаваныя. Але цэнтр пакуль што працуе. Праўда, у асноўным на тым, што засталося ад былой дапамогі, і мы ўсё часцей займаемся латаннем дзірак.

Вось так паступова знікалі аптымістычныя ноткі, вырысоўваліся патрэбы і праблемы. На жаль, у нашым жыцці няшмат падстаў для аптымізму, асабліва, калі ўся краіна перажывае цяжкі эканамічны крызіс.

Апынуўшыся ўпершыню ў шпіталі, я нібы адчула, што смерць блукае па яго калідорах і ніхто не ведае, у які пакой яна зазірне.

Усе дзверы былі зачынены. За імі дзеці разам са сваімі бацькамі жывуць і змагаюцца за жыццё. Амаль што ўсе 80 ложкаў, на якія разлічаны цэнтр, заняты. Вось маці трымае спіс лекаў, і ад таго, знойдзе яна іх ці не, залежыць жыццё яе дачкі. А вось бацька, які не адыходзіць ад свайго сына. Невядома, на якія сродкі яны існуюць. Маці не вытрымала пакут і зараз знаходзіцца ў іншым шпіталі з псіхічным захворваннем. А вось дзіця, якому ўсяго некалькі месяцаў. Маці — здаровая, а бацька быў ліквідатарам аварыі ў Чарнобылі. Вось і вынік... Анёл, навошта ты трубіў?.. Няма чыстых рэчак, чыстай зямлі, атручана ежа.

Менавіта таму, каб дзеці і іх бацькі не адчувалі сябе забытымі, каб ведалі, што ім спагадаюць і жадаюць дабра, шмат часу тут праводзяць сёстры міласэрнасці з Праваслаўнага таварыства Святой Праведнай Сафіі Слуцкай. На жаль, бываюць выпадкі, калі добрае слова і малітва — гэта адзінае, што можна зрабіць. Але ж надзея памірае апошняй.

Вось Каця Лышчышына — цудоўная дзяўчынка, чыя малітва падштурхнула мяне да напісання рэпартажу з месца, дзе пануе толькі сум. Лейкемія — захворванне вельмі каварнае, а яго лячэнне надта цяжкае і працяглае. Дзеці губляюць валасы і саромеюцца свайго выгляду. І вось на здымку (на 1-й стар.) адзінаццацігадовая дзяўчынка ў парыку. Раней яна ніколі не пісала вершаў. Аднойчы, калі Каця зноў пераадолела тую мяжу, якая падзяляе жыццё і смерць, зноў адчула, што жыве, яна папрасіла маці ўзяць ручку і на адным дыханні прадыктавала:

**О Божа, за што Ты**
**мяне пакараў!**
**Так, грэшная я — так Ісус**
**мне сказаў.**
**Тады я ўзляцела, гукнула**
**Вам тут:**



**О злітуйся, Божа, не дай**
**мне пакут.**

**Ты ўспомні ўсе нашыя**
**райскія дні:**
**На санках з'язджалі,**
**гулялі адны.**
**Я зараз, нібыта у пекле, адна,**
**Я плачу, крычу:**
**дзе мая тут віна!**

**Не бачна ні неба, ні сонца,**
**ні сушы,**
**А злодзеі толькі, каторыя**
**душаць.**
**І многа катлоў, што з**
**кіпячай, цягучай...**
**І многа таго, што цяпер**
**мяне мучыць.**
**Даруй мне, мой Божа,**
**прашу, я у стоме,**
**Мы будзем з Табою**
**гуляць ў Тваім доме.**
**І вернуцца мне мае**
**райскія дні,**
**І будзем мы разам**
**навекі адны.**

**І сонца над намі узыдзе,**
**як колісь,**
**Не будзе катлоў, ды пакут,**
**ды і болю.**
**Хутчэй Ты вяртайся ка мне —**
**хоць калі! —**
**Адзіны ў нябёсах мой**
**Бог на зямлі.**

Дзе, у якім жыцці гэтыя дзеці паспелі награшыць так, каб з'явіцца на гэты свет з бязлітасным дыягназам — лейкемія. Дзеці і дарослыя! Дапамажыце Каці і іншым дзецям, якія знаходзяцца ў анкагематалагічным цэнтры 1-й клінічнай бальніцы г.Мінска. Ім патрэбны лекі, цацкі, але, магчыма, яшчэ больш яны будуць рады новым сябрам, якія напішуць і падтрымаюць іх. Часам яны адчуваюць сябе вельмі адзінокімі.

**Вы можаце пісаць у шпіталь або на адрас Каці Лышчышынай: 211004, Віцебская вобласць, г.Орша, п/а Балбасава, 386-7.**

*Пераклад верша на беларускую мову В. ШЫХАНЦОВА.*

The Republican Children's Oncological and Haemotological Centre is the place where some innocent victims of the world worst Chernobyl nuclear disaster come to find assistance and to get treatment. There are 80 beds for children and young men aged just from several weaks up to 25 years old.

Thanks to the generocity of our friends from Austria, Switzerland, Italy, England but especially from Germany and Dr. Gerein, in particular, the Centre now is the best in Belarus and and former USSR. It has ultra modern equipment and is rather well supplied with medicines. However, deliveries are of temporary character and the need in them remains to be great and even is becoming still greater because of the aggravating economical situation in Belarus.

New babies and children are arriving in the hospital every day and future holds little hope for them. The death is wandering here along the corridors looking after its next victim. The doors of the wards are tightly closed. Behind them children and their parents are striving for survival. What is a tragedy for parents to realize there is nothing one can do for the children.

Katya Lyshchyshyna is a beautiful girl, aged only 11, in a wig. She is ashamed of her boldness. Sometimes children are very cruel. They laughed at Katya when she came back home after half a year of sophysticated treatment and her mother bought her a wig. A treatment is very agressive and very long. Very often Katya found herself between life and death and each time she was revived by doctors. Once when she came back to life again she asked her mother to take a pen and dictated her the following words:

**What do you punish**
**me for, Oh, my Lord!**
**I know, I am sinful —**
**such were Jesus's words.**
**I heard this, took wing,**
**screamed appealing**
**to heavens:**
**'Oh, Father, I suffer!**
**Be merciful! Help!'**

**I hope you remember**
**those heavenly days**
**When we both enjoyed**
**our long walks and games.**
**Tonight I feel lonely and**
**as if in Hell;**
**I'm tormented here,**
**i'm screaming: 'Please, help!'**

**I find neither Heavens,**
**nor Sun, nor Earth...**
**Beside me are villains**
**who take away my breath...**
**Beside me are villains**
**so cruel and wicked**
**And vessels with**
**something boiling and viscid...**

**I feel exhausted, my Lord,**
**I feel pain.**
**Be merciful, take me**
**with you for a journey.**
**The heavenly past will**
**return again,**
**And we'll never part,**
**enjoying the eternal.**

**The Sun will shine again**
**above my head,**
**And I'll forget the boiling**
**viscid essence...**
**Oh, my Divine, my**
**One and Only Dad,**
**Please, hurry back to me,**
**I need your presence!**

What have they been punished for? Could they be so sinful in a previous life to be born with a hopeless diagnosis of leukemia? What sort of help is there for these children? They need medicines and vitamins. But they also need toys, games, books, sweets and pencils to paint their lives in different colours. Moreover, they need new friends to support them in their misfortune. Unfortunately, all to frequent, kind words and prayer are the only assistance they can get.

**For contacts you may write to the edition of our newspaper or at Katya's address: 211004 Vitsebskaya vobl., Orsha, p/o Balbasovo, 386-72. Lyshchyshyna Katya.**

**Таіса БАНДАРЭНКА.**





**НА ЗДЫМКАХ: вось так выглядае палата, дзе жывуць самыя маленькія пацыенты. А гэты хлопчык трапіў у шпіталь аж з Арменіі. Яго "знітаванасць" з капельніцай зусім не перашкаджае гуляць па калідоры, ён нават і не заўважае яе. Яго цётка прыйшла павіншаваць хлопчыка з днём нараджэння, які быў напярэдадні; зазірніце ў вочы гэтага дзіцяці! У іх і пакута, і надзея.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

Г.Грубер, абраны новым генералам ордэна ў 1802 годзе, пераносіць месца свайго знаходжання ў Пецярбург. Аляксандр І дазволіў пабудаваць езуітам у сталіцы дом, захаваў за імі перададзены яшчэ Паўлам І Кацярынінскі касцёл, не пярэчыў заснаванню місій у Астрахані, на Каўказе, у Сібіры, Прыбалтыцы, у Адэсе. Учэпістыя шчупальцы езуіцкага спрута непрыкметна дабраліся да межаў Расійскай імперыі і перакрочылі іх, дасягнулі Усходу, Кітая. Усюды, дзе прысмокталіся мяккія навобмацак, уедліва-ліпучыя прысоскі, узнікалі апорныя пункты езуітаў — рэзідэнцыі і місіі.

Грубер быў надзвычай каларытнай асобай. Сучаснікамі і пазнейшымі даследчыкамі ён нязменна характарызаваўся як чалавек здзіўляючых здольнасцей, усебаковы эрудыт, знаходлівы і настойлівы, з вострым і самабытным складам розуму. Калі ішла гаворка пра яго веды ў той ці іншай галіне навукі або вытворчасці, заўсёды ўжываліся прыметнікі найвышэйшай ступені. Ён быў механікам, фізікам, архітэктарам, вынаходцам і канструктарам фізічных прыбораў і інструментаў, гідраўлікам, хімікам, оптыкам, матэматыкам, вопытным зубным урачом, кандытарам. Дасканала валодаў шасцю мовамі. Чытаў публічныя лекцыі ў Пецярбургскай акадэміі. У музеі езуіцкай акадэміі экспанаваліся прыборы, сярод іх і вынайдзеныя Груберам. Яны ўражвалі перш за ўсё ўяўнай звышнатуральнасцю. Выклікалі нават страх, а некаторыя прыводзілі наведвальнікаў у здранцвенне. Жахлівае здзіўленне ахоплівала кожнага пры адным толькі позірку на вялізную гаворачую галаву старога з доўгімі сівымі пасмамі валасоў і рухомымі вачыма. Галава выразна і гучна, з кампетэнтнасцю дасведчанага чалавека адказвала на пытанні субяседніка на той мове, на якой да яе звярталіся. Пры гэтым выраз доўгага маршчыністага твару змяняўся адпаведна тэме і характару размовы.

Загінуў Грубер трагічна і загадкава — задыхнуўся падчас пажару, які раптоўна ахапіў езуіцкі дом у Пецярбургу. Шкада, што гэты незвычайны чалавек марна расцерушыў свой талент на служэнне утапічнай ідэі — усталяванню адзінай у свеце канфесіі.

У апошнія гады жыцця Грубер выношваў задуму авалодаць Віленскім універсітэтам і наогул усёй сістэмай адукацыі на Беларусі. Але яму, як кажуць, перайшоў дарогу папячыцель Віленскай навучальнай акругі буйны магнат князь Адам Юрый Чартарыйскі, блізкі сябра Аляксандра І. Тады ўзнікла думка пераўтварыць Полацкі калегіум у акадэмію з усімі правамі універсітэтаў. Ажыццявіў задуму пераемнік Грубера генерал ордэна Бжазоўскі. Урачыстае адкрыццё езуіцкай акадэміі адбылося 10 чэрвеня 1812 года. Такога пампезнага відовішча палачане, напэўна, не бачылі ніколі.

На ўсіх трох факультэтах займалася каля 600 студэнтаў, працавала 37 выкладчыкаў, сярод якіх былі выхадцы з Аўстрыі, Нямеччыны, Францыі, Італіі, Англіі. Паступова вырасла мясцовая прафесура, але адпаведнае выхаванне гэтак выхаласціла іх душы, што нацыянальнай яна была толькі па паходжанню. З Беларуссю яе звязвала хіба толькі прозвішча, ды і тое часта псавалася на польскі манер.

Знаёмства з дысцыплінамі абавязковага курса паказвае, што выпускнікі атрымлівалі па тым часе даволі прыстойны аб'ём ведаў еўрапейскага ўзроўню. Са сцен Полацкай акадэміі, а яна праіснавала восем гадоў, выйшла нямала сусветна вядомых вучоных у розных галінах навукі. На лінгвістычным факультэце акрамя іншых прадметаў выкладалася некалькі моваў: польская, французская, нямецкая, італьянская, арабская, сірыйская, лацінская, грэчаская, яўрэйская, расійская. Раней, яшчэ ў калегіуме, нейкі час ужывалася беларуская мова, але карысталіся ёю да засваення вучнямі лаціны ў малодшых класах. Ва ўсіх езуіцкіх навучальных установах у якасці рабочых выкарыстоўваліся дзве мовы — лацінская і польская. Зварот езуітаў да беларускай мовы быў вымушаны, яны разглядалі яе як сродак павышэння эфектыўнасці сваёй місіянерскай работы. І толькі.

Спарадычна жывое беларускае слова гучала ў тэатральных прадстаўленнях дыдактычнага характару, асабліва ў інтэрмедыях, кароткіх камедыйных сцэнках паміж дзеямі асноўнага спектакля. І то толькі ў вуснах асобных персанажаў, галоўным чынам, мясцовых жыхароў. У сваім натуральным абліччы беларуская мова жыла ва уніяцкіх цэрквах і школах.

Студэнты факультэта вызвольных навук вывучалі філасофію, паэтыку, рыторыку, логіку, метафізіку, агульную фізіку, тэарэтычную і практычную хімію, матэматыку, грамадзянскую і вайсковую архітэктуру, натуральнае, звычаёвае і рымскае права, усеагульную гісторыю, матэматыку, заалогію, батаніку, мінералогію, статыстыку і інш. Будучыя багасловы штудзіравалі маральнае багаслоўе, дагматычнае і святое пісанне, кананічнае права, гісторыю хрысціянства і царквы. Выпускнікам надавалася тая ці іншая навуковая ступень і, згодна табелю аб рангах, чын 14 класа, калежскага рэгістратара.

А тым часам над ордэнам збіраліся хмары, езуіты гэтым разам страцілі ўласцівую ім чуйнасць. Праваслаўныя іерархі, напалоханыя распаўсюджваннем каталіцтва сярод вышэйшых колаў рускай арыстакратыі, актывізавалі антыезуіцкую прапаганду, узмацнілі націск на імператара. Аляксандр Паўлавіч, выхаваны Лагарпам і Самборскім, у рэлігійных адносінах быў чалавекам індыферэнтным, а па характару — нерашучым, няўпэўненым у сабе, схільным да містыцызму. Да "Таварыства Ісуса" ён ніколі не адчуваў прыхільнасці. А езуіты тым часам распяразваліся ўсё больш і больш. Парушалі агульнапрынятыя нормы паводзін, адкрыта грэбавалі законамі, не бралі расійскага падданства, прымалі з-за мяжы сваіх аднадумцаў з фальшывымі пашпартамі, а галоўнае, пашырылі місіянерскую дзейнасць па "совращению православных в латинство". Апошняй кропляй стаўся ўдзел насельніцтва былых тэрыторый Вялікага Княства Літоўскага ў вайне 1812 года на баку Напалеона. Езуіты абвінавачваліся ў падбухторванні беларусаў уступаць у корпус маршала Панятоўскага, які ўваходзіў у склад Вялікай арміі.

У канцы 1815 года нечакана, бы маланка сярод яснага неба, прагучаў указ імператара аб выгнанні езуітаў з Пецярбурга, але пушчаныя імі карэнні былі такімі моцнымі, што ўказ давялося паўтараць у 1817 годзе.

Апошні ўдар Перуна прагучаў праз тры гады. Па дакладу міністра духоўных спраў і народнай асветы, былога обер-пракурора сінода князя Галіцына, імператар Аляксандр І 13 сакавіка 1820 года загадаў: "езуітаў, што забылі святы абавязак не толькі ўдзячнасці, але і падданніцкай прысягі і таму няварты карыстацца заступніцтвам расійскіх законаў, выслаць, пад наглядам паліцыі, за межы дзяржавы і ў будучыні ні пад якім выглядам і найменнем у Расію не пускаць... Полацкую езуіцкую акадэмію і падведамныя ёй вучылішчы зачыніць".

Замест таго, каб акадэмію, калегіумы і вучылішчы езуітаў пераўтварыць у свецкія школы, як гэта было зроблена ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1773 годзе, пачалося самае што ні ёсць сапраўднае рабаўніцтва. Многае, як сведчаць гістарычныя крыніцы, знікла невядома куды. Кніжкі перавезлі ў Пецярбург і Маскву. Што засталося, перадалі ў Віцебскую гімназію. Друкарню адправілі ў Кіеў, дзівосны па памерах і гучанню арган — у Вільню, з касцёла зрабілі праваслаўную царкву. У езуіцкіх будынках размясцілі кадэцкі корпус. Усё размялі, расцерушылі ў пыл, што цяпер не знайсці і следу. Усё, што можна было, раскралі. У казну трапіла ўсяго толькі 1 000 рублёў срэбрам і 4 000 асігнацыямі, а наяўнасць беларускіх езуітаў яшчэ пры Чарневічу вызначалася некалькімі мільёнамі рублёў.

Езуітаў пад аховай паліцыі адправілі на аўстрыйскую граніцу і выправадзілі "за пределы Российской империи". Кожнаму на дарогу дазволілі ўзяць асабістыя рэчы і выдалі згодна чыну па 25—50 рублёў. Многа ці мала? У 1817 годзе на рынку Збор у Полацку за 50 рублёў можна было купіць бочку пшаніцы. Бочка жыта каштавала 40, гароху 35, грэчкі 25, аўса 18, ячменю 16 рублёў асігнацыямі. Граніцу перакрочыла 356 езуітаў. Частка іх асела ў Галіцыі, частка падалася ў Францыю, Італію, Швейцарыю... Каб папа Пій VII не аднавіў езуіцкі ордэн з усімі правамі і прывілеямі, небаракам не было б куды падзецца. Гэтак няслаўна і трагічна завяршылася двухсотпяцідзесяцігадовая гісторыя езуітаў на беларускай зямлі.

**Станіслаў ЦЯРОХІН**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № № 33-37.**

**Аўтар "Прамовы...", чалавек у гадах, не маючы магчымасці трапіць у Мінск на Першы з"езд беларусаў свету і выступіць на ім з трыбуны, даслаў яе тэкст прэзідэнту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесару Адаму Мальдзісу. Просьба прачытаць "Прамову..." на з"ездзе, на жаль, не магла быць выканана: ліст прыйшоў запозна. Таму "Голас Радзімы" і друкуе сёння яе на сваіх старонках.**

### ПРАМОВА, НЕ СКАЗАНАЯ НА З'ЕЗДЗЕ

# МЫ ПАВІННЫ ЎКЛЮЧЫЦЦА Ў БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛУЮ СПРАВУ

Дарагія беларускі і беларусы!

Усе мы павінны благаслаўляць цудоўную, дадзеную нам Богам нечаканасць лёсу!

Сведчаннем гэтай думкі — нашыя ліпеньскія дні 1993 года на Беларусі, у яе сталіцы, у адраджэнскі час.

Калі ўпершыню пабачыў я "Пагоню" на будынку Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Гданьску, уявіў сабе, у які знамянальны перыяд мы ўвайшлі.

Павінен адзначыць, што ўсе мы, звязаныя з беларускай справай, знаходзім у консульстве падтрымку, разуменне, сапраўдную славянскую гасціннасць.

З'ехаліся вы з усяго свету. Частка з нас пільна сцеражэ свядомасць сваёй беларускасці, шчасліва пранесеную праз гады жыцця або, прынамсі, памяць аб продках з гэтай зямлі, іншыя толькі песцяць нейкую сямейную легенду, сягаючую надта ж ужо ў далёкае крывіцкае мінулае. Па-рознаму мае права быць. Сёння кожны з нас спалучаны з канкрэтнай краінай, з месцам жыхарства на зямным шары, па грамадзянству належыць да той ці іншай дзяржавы, аднак, калі так можна сказаць, кружаць у ім жыватворныя беларускія сокі.

У адным з вершаў польскага паэта Каміля Цыпрыяна Норвіда ёсць вось такія радкі: "Каб мерыць будучыні шлях, абавязкова памятаць трэба, адкуль ты выйшаў..."

Зразумела, што павінны мы гэтыя словы ўспрыняць па-свойму: адкуль выйшлі твае продкі...

Па бацьку дарагія мне менскія закуткі, па маці — ковенскія. Нарадзіўся я ў Вільні, і таму мне надзвычай пашчасцілася. Гэта ж у свой час быў цэнтр беларускай адраджэнскай думкі. Там рос, вучыўся, як кажуць, у Польшчы міжваеннага дваццацігоддзя, знаходзячыся, дзякуючы бацьку, побач з беларускай справай. Мая нацыянальнасць і грамадзянства польскія. З-за незвычайна складаных гістарычных абставінаў у гэтай частцы Еўропы таксама складанымі з'яўляюцца асабістыя лёсы людзей. Мяркую, што абсалютна шкада часу марнаваць на бясплодныя спрэчкі, калі нават не сваркі — колькі ў цябе працэнтаў такой ці іншай крыві, той ці іншай нацыі.

Тутака справа не ў інтэрнацыяналізме, які збэсціў гэтае пытанне. Калі, скажам, негр уздумае палюбіць Беларусь і пачне для яе рабіць шмат карыснага, можа быць больш вартасным, чымсьці карэнны жыхар наднёманскай краіны.

Варта ў гэты момант прыпомніць, што групу самых вядомых польскіх творцаў-літаратараў "Скамандрытаў" складалі перад вайною выхадцы з іншых этнасаў!

Не адмаўляйма ж станоўчых вартасцей людзям з так званымі сымбіятычнымі індывідуальнасцямі, паходзячым з розных нацыяў ці этнасаў, нават расаў! Больш таго, гісторыя гаворыць, што такія людзі маюць пераважна значна шырэйшыя разумовыя і духоўныя далягляды, чымсьці, я б сказаў, "аднатэматычныя", якія прадстаўляюць толькі адзін этнас, адну нацыю. З гэтым пытаннем, зразумела, звязана веданне некалькіх моваў, прынамсі, дзвюх. Гётэ гаварыў, што чалавек, які валодае некалькімі мовамі, мае і некалькі жыццяў. Гэта цэлае вельмі сур'ёзнае пытанне. Сёння не час ім займацца.

Мае роздумы зусім мэтанакіраваныя. Імі адзначаю спецыфіку беларускай нацыі, а ці толькі яе?! Сярод беларусаў шмат такіх сымбіятычных індывідуальнасцяў, не выключаючы беларуска-татарскіх. І што ж з гэтага? Можам гаварыць аб багацці народа, а не аб яго збядненні. Польскі гісторык мінулага стагоддзя Юзэф Шуйскі разумна піша, што сілай народа з'яўляецца не адкіданне чужых элементаў, а менавіта іх засвойванне.

Можа і малая частка майго жыцця мінула ў беларускай стыхіі, менавіта ў беластоцкай "Ніве", аднак, як здаецца, плённая вывучэннем паасобных раздзелаў беларуска-польскіх сувязей у XIX стагоддзі і на пачатку бягучага. І не было для мяне больш каштоўнай узнагароды за гэтую працу, чымсьці факт, аб якім даведаўся ад прафесара Адама Мальдзіса. Пакідаючы ўжо Беласток з удзельнікамі Скарынінскага юбілею, вучоны сказаў мне вось што: "Вашыя некаторыя артыкулы з "Нівы" чытаюцца менскімі студэнтамі беларускай філалогіі".

Усе мы павінны шчыльным фронтам — хто як і ў якой дзялянцы патрапіць — уключыцца ў бел-чырвона-белую справу!

І яшчэ адно: будаванне сённяшняга і заўтрашняга дня беларускай самастойнай дзяржавы павінна адбывацца без ніякай непрыязнасці да іншых, да яе суседзяў, да жыхароў іншых нацыянальнасцей ці этнасаў у краіне. Памятайма, што ўсцяж існуюць сілы, асабліва вонкавыя, якія імкнуцца цкаваць адных супроць другіх.

Перад Рэспублікай Беларусь карысныя перспектывы, асабліва дзякуючы працавітасці яе жыхароў, іх дабраце і скромнасці.

Мае дарагія, ад шчырага сэрца (а яно пакрысе беларускае, польскае, татарскае, літоўскае) жадаю як мага больш плённых рэзультатаў арганізатарам і ўдзельнікам Першага з'езда беларусаў свету!

**Мацей КАНАПАЦКІ.**
г. Гданьск.

# НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ ПАЎЛІНЫ МЯДЗЁЛКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Не зразумела, чаму просценькі малюнак-штрышок з біяграфіі Паўліны Вінцэнтаўны не знайшоў месца ў "Сцежках жыцця"? Ён зацікавіў мяне, каб працягнуць тэму Паўліны Мядзёлкі-настаўніцы. Хоць і без яго за першай выканаўцай ролі Паўлінкі засталася слава "адной са старэйшых настаўніц рэспублікі". Так напісаў Арсень Ліс у рэдакцыйнай (безыменнай) прадмове "Свята доўгага дня" да кнігі ўспамінаў "Сцежкамі жыцця".

Ёй даваліся зарабляць нялёгкі настаўніцкі хлеб не толькі ў Беларусі. Але пачынала яна тут, на радзіме. Спачатку (не ўлічваючы, вядома, трохрублёвага "дарэктарства" 12-й дзяўчынкі і рэпэтытарства ў прыватным інтэрнаце спадарыні Клачкоўскай) настаўніцай у Жорнаўцы, дзе ў адным са сваіх маёнткаў княгіня Магдалена Радзівіл утрымлівала беларускую школку, і ў Мядзведзічах (1917—1918), потым інструктарам беларускіх школ у Гародні (1919—1920), выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў Дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе (Дзвінску) і на настаўніцкіх курсах (1922—1925), у Горы-Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, у Маскве (1932—1947). урэшце, у родным Будславе.

Кожны з пералічаных перыядаў быў па-свойму цяжкім, нават трагічным. Такім цяжкім, да безнадзейнасці, паўстае ў "Сцежках жыцця" 1919-ты год.

"Вясной 1919 года ў школьным аддзеле Сярэдняй Літвы мяне прызначылі інструктарам беларускіх школ у Гродна (...) У мае абавязкі як інструктара школ уваходзіла забеспячэнне школ падручнікамі, беларускай літаратурай, выпрацоўка праграм, арганізацыя прафсаюза і курсаў перападрыхтоўкі настаўнікаў..." У той час Гародня была (і потым на два дзесяцігоддзі засталася) пад акупацыяй Польшчы. "Сімпатыі" белапалякаў да жыхароў нёманскага краю Мядзёлка зведала яшчэ ў Мядзведзічах, калі мястэчка захапіў атрад пад начальствам нейкага Дамброўскага.

"— А то цо такего? — азваўся адзін вусаты, паказваючы хлыстом на школьныя таблічкі і лозунгі на сцяне. — По якему то? Цо то ешчэ за Бе-ла-русь?

— То пані і ест белорусінка? — здзіўлена пытае другі.

— Так, беларуска. І школа, у якой я працую, беларуская, таму і надпісы на гэтай мове.

— Усіх гэтых беларусаў трэба расцягнуць ды ўсыпаць ім па сотні гарачых, — сціснуўшы зубы, працадзіў вусаты".

І ўсыпалі. "Назаўтра пачалася экзекуцыя. 60 чалавек расцягнулі плашмя на вуліцы і пачалі біць. Старэйшаму з катаваных было 70 гадоў, а малодшаму — 12. Адзін жаўнер стаў ботамі на выцягнутыя рукі хлопца і, гакаючы, біў яго з усёй моцы, а хлопец вужакай віўся ад болю. Стары ў той жа дзень памёр, не вытрымаўшы катавання".

Кепска, калі народ забывае, выракаецца ідэалаў дэмакратыі. Хай сабе часова, у нялёгкі перыяд будавання ўласнай незалежнай дзяржавы, перад тым больш стагоддзя не існаваўшай на мапе Еўропы. Тады замест натхнёнай мазуркі "Марш, марш, Дамброўскі..." прыходзіць гэрблівае "Цо то ешчэ за Беларусь?" Кепска, калі паэтычны радок Канапніцкай і мастацкае слова Элізы Арэшкы не западаюць у сэрцы грамадзян, хай сабе і не існуючай афіцыйна дзяржавы.

Нялюдскія здзекі з тубыльцаў наднёманскага краю чыніліся не толькі пад начальствам афіцэра Дамброўскага.

"З дня ў дзень да нас даходзілі весткі аб тым, як гаспадараць польскія паны ў нашым краі. У Беластоцкім і Бельскім паветах польскія інспектары заявілі беларускім настаўнікам, што ў школы могуць быць назначаны толькі тыя настаўнікі, якія скончылі польскія настаўніцкія курсы. У Сакольскім павеце пазакрывалі ўсе беларускія школы, а настаўнікам-беларусам сказалі: "Едзьце ў сваю Беларусь, калі яна дзе ёсць, а тут не дазваляем вучыць дзяцей на беларускай мове". У Будславе закрылі беларускую гімназію..."

А пачытаўшы, акрамя цытаваных мясцін з успамінаў Мядзёлкі, дзённік Антона Луцкевіча і яго брашуру "Польская акупацыя на Беларусі" (1920 год), наступны аўтограф Паўліны Мядзёлкі падасца табе, шаноўны чытач, не такім нечаканым, як мне, калі ўпершыню знаёміўся з ім у Цэнтральным дзяржаўным архіве Летувы (ф. 582, воп. 2, адз. зах. 46. Арк. 132—132 адв.).

**У Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Гарадзеншчыны**

**Даклад**

**Не зважаючы на загад польскага акружнога інспэктара — павятовыя інспэктары і дагэтуль адказываюцца затверджаць нашых вучыцялёў.**

**Вучыцялі знаходзяцца ў страшэнна цяжкіх варунках — некатарыя фармальна галадуюць і ў роспачы пакусяцца на жыцьцё. Патрэбна як найхутчэйшая матэрыяльная падмога. Горадз. Вучыц. Саюз без капейкі. Інспэктар Возьняковскі нічога не выдае з затрыманых грашэй.**

**Робяцца страшэнныя перашкоды з выдачай пропускаў усім беларусам. Затрымліваюца дакумэнты і прыехаўшыя галадуюць, не маючы змогі на'т дахаты дабрацца.**

**На станцii робяць обыскi, i калі знойдуць лісты, пісаныя па-беларуску, — жандармэрыя арыштовывае — было ўжо колькі такіх выпадкаў. Па почце такжа беларускія пісьма не даходзяць.**

**Праца на мейсцы ў Горадні наладжываецца. У кожны суботнік рэфэраты і лекцыі. Заганізавацца хор.**

**Ратуйце галодных вучыцялёў.**

**П. Мядзiолко.**

**5 кастрычніка 1919 г. Горадня.**

Нездарма караценькую справаздачу інспектар беларускіх школ затытулавала не "запіска", "справаздача", "паведамленне", а Даклад. У ім, нібы ў прамове палітыка з высокай еўрапейскай трыбуны, чуваць голас у абарону ўсяго паднявольнага люду. Паміж заключных слоў "Ратуйце галодных вучыцялёў" чытаецца "Ратуйце беларускі народ!"

І адной з тых, хто ў запомны для Беларусі час годна і горача наблiжаў лепшую будучыню разрабаванай ліхадзеямі Радзімы, была Паўліна Мядзёлка. Не проста купалаўская гераіня Паўлінка, не толькі бяздольная Зося. Але і Настаўніца, Асветніца.

Сотні твараў дарослых гледачоў у перапоўненай тэатральнай зале і вучнёўскія класы з дзесяткам дапытлівых вачанят вымагалі ад Паўліны Мядзёлкі аднолькава сумленна служыць Бацькаўшчыне.

## "НАРАДЗІЛАСЯ 12 ВЕРАСНЯ Ў БУДСЛАВЕ"

Біяграфічныя звесткі пра Паўліну Мядзёлку, з усёй дакладнасцю прыведзеныя ў шматлікіх энцыклапедычных даведніках, ніколі ні ў кога не выклікалі сумненняў. Не выклікалі і ў мяне, бо на даследчыцкую засцярогу не мелася ніякіх падстаў.

"Мядзёлка Паўліна Вікенцьеўна [н. 31.8.(12.9).1893, мяст. Будслаў Віленскага пав. Віленскай губ.]" — інфармуе нас БелСЭ.

Аднак нядаўна, падчас Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рым-IV", наладжанай у Гародні, у тамтэйшым архіве я шукаў метрыку Вацлава Ластоўскага. (У адрозненне ад біяграфічных звестак пра Мядзёлку, я ўжо меў сур'ёзныя падставы не верыць айчынным энцыклапедыям адносна месца нараджэння "аднаго з ідэолагаў беларускага буржуазнага нацыяналізму").

Метрыкі Власта я не знайшоў. Але як часта здараецца ў архіўных пошуках, палюеш за адным, трапляеш у іншае. Не ведаю, чаму прыйшла думка зірнуць на метрыку Паўліны Вінцэнтаўны. Мо таму, што яна з Ластоўскім "зямлячка" па метрычных тамах агульнага для абодвух Дзісенскага дэканата? Дэканацкіх кніг за 1883 год (год нараджэння Власта) у Гародні не захавалася. А вось "Метрическую книгу Будславской римско-католической приходской церкви. Часть первая. О родившихся с 22 декабря 1892 г. по 26 декабря 1893 года" мне прынесли (ЦДГА Беларусі ў Гародні. Ф. 915, воп. 2, адз. зах. 40). А ў ёй пад нумарам 131-м занатавана наступнае (далей у квадратовых дужках падаецца тэкст, надрукаваны ў выглядзе стандартнага бланка).

[Когда, где, кто и кем, одною ли водою или со всеми обрядами таинства окрещена.]. — Тысяча восемсот девяноста третьего года сентября 14 дня в Будславском Р.К. приходском костеле, окрещено ребенка Паулина, кс. Бучинским с совершением всех обрядов таинства.

[Какого сословия и общества, каких родителей, когда и где, т.е. в каком приходе родился крещенный?]. — Будславского общ. крестьян Викентия и Францишки с Василевичев Мядзелков закон. супр. дочь родилась 12 сентября в Будславе.

[Кто были по имени и прозванию восприемники при Св. крещении и кто присутствовал?]. — Восприемниками были Франц Хоцянович с Марьею Василевичевною...

Паводле звестак нашых энцыклапедый, у метрыцы, паводле афіцыйна прынятага ў XIX стагоддзі ў Расеі старога стылю, мелася стаяць іншая дата: 31 жніўня.

Я спрабаваў высветліць, хто і калі першым пусціў памылковы пералік са старога на новы стыль дня нараджэння Паўлінкі, бо ні ў "Сцежках жыцця", ні ў сёлетняй палымянскай публікацыі ўспамінаў дата нараджэння нідзе не пададзена. "Выпадкова" натрапіў на мемуары Паўліны Вінцэнтаўны, напісаныя ёю ў апошні год жыцця. Да іх далучана анкета, запоўненая 14 чэрвеня 1973 года ўласнай рукою Мядзёлкі. У графе "Год, число и месяц рождения" пазначана: 1893 г. 12 сентября".

Ці не сама Паўліна Вінцэнтаўна і ўвяла ў зман энцыклапедыстаў, не пераверыўшы (зрэшты, гэта не яе абавязак) свой дзень нараджэння ў новы стыль. Хоць паметку сучасным атрамантам у метрычнай кнізе Будслаўскага касцёла насупраць запісу пра хрост П. Мядзёлкі — **IV. ПЯ 117561. 20/5—64 г.** — я расшыфраваў бы так: 20 траўня 1964 года сама Паўліна Вінцэнтаўна звярнулася ў архіў па метрычныя звесткі, згодна з якімі цяпер днём нараджэння П. Мядзёлкі належыць лічыць 24 верасня 1893 года.

Так што гэтая публікацыя, прымеркаваная да 100-й гадавіны з дня нараджэння Паўліны Вінцэнтаўны Мядзёлкі, "запазнілася", у адрозненне ад іншых беларускіх газет, на старонках "Голасу Радзімы" не выпадкова.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: У наступных нумарах "Голасу Радзімы" будзе апублікаваны невядомы варыянт мемуараў Паўліны Мядзёлкі пад умоўным загалоўкам, як заўважыла сама аўтарка, "Купалаўская "Паўлінка" ў маім жыцці", выяўлены Язэпам Янушкевічам у архіве Інстытута гісторыі АН Беларусі напярэдадні яе юбілею.**


Даклад.
Не зважаючы на загад польскага акружнога інспэктара — павятовыя інспэктары, дагэтуль адказываюцца зацвярджаць нашых вучыцялёў.
Вучыцялі знаходзяцца у страшэнных цяжкіх варунках — некатарыя фармальна галадуюць...
Праца на мейсцы у Горадні наладжываецца. У кожны суботнік рэфэраты і лекцыі. Загранізавацца хор.
Ратуйце галодных вучыцялёў.
П. Мядзёлка

Аўтограф Паўліны МЯДЗЁЛКІ.

# ВЫСТАВА ВЫПУСКНІКОЎ АКАДЭМІІ

Калі вы хочаце атрымаць задавальненне ад немітуслівага, спакойнага жывапісу і да таго ж любіце нечаканасці, прыходзьце ў Мастацкі музей. Там у невялічкай зале экспануецца выстава трох мастакоў. Усе яны — выпускнікі Акадэміі мастацтваў.

Карціны Сяргея Войчанкі і Уладзіміра Цеслера незвычайныя. Папершае, таму што мастакі свае працы ствараюць разам. Такая вось рэдкая з'ява — дуэт у жывапісе. Па-другое, яны працуюць у незвычайнай тэхніцы, сакрэт якой не раскрылі нават супрацоўнікам музея. Пра гэта можна толькі здагадвацца, што і робяць гледачы ў кнізе водгукаў. Канешне, вельмі цікава даведацца, як ствараюцца карціны, кожная з якіх уражвае сваёй рэльефнасцю. Яны здаюцца нечым жывым. На іх дыхае Усход. Ён пранізвае сваёй таямнічасцю. Вось "Чарапаха". Яна на карціне не адна, а, здаецца, з усім светам. Тут і егіпецкія піраміды, і кітайскія іерогліфы, і горад Стрэшын Гомельскай вобласці, і партрэт Леніна. Тут ёсць, пра што думаць і на што паглядзець.

Карціна "Ракавіна". Гэта не проста нешта жывое. Глядзіш на спіраль ракавіны і не можаш пазбавіцца думкі, што гэта спіраль цывілізацыі.

Цудоўная карціна "Карабель". Колькі рамантыкі тут, колькі густу!

Працы мастакоў вылучае пэўная гама колераў. Яны не здраджваюць ёй ні ў адной карціне. Гэта мяккія ад пастэльнага да карычневага колеры. Дзякуючы ім, Усход на іхніх палотнах у першую чаргу глыбіня і мудрасць, а не бляск і яркасць.

Трэці мастак — Аляксандр Барташэвіч. Ягоныя працы "Таполі", "Чатыры лямпы", "Без назвы" — гэта ўдумлівы позірк на свет без крыклівасці. Ён проста бачыць пасвойму лямпы, таполі і паказвае нам. І на іх хочацца глядзець.

**Алена СПАСЮК.**

*ПАСЛЯ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ЭКСПЕДЫЦЫЙ*

# ЗНОЙДЗЕНА Ў КРЭЎСКІМ ЗАМКУ

Доўгі час муры Крэўскага замка былі месцам, дзе не раз з'яўляліся мастакі, гісторыкі, краязнаўцы, фатографы, архітэктары і рэстаўратары. І вось у 1970 годзе да дзірвана на замкавым падворку ўпершыню дакранулася рыдлёўка археолага. Гэта была архітэктурна-археалагічная разведка пад кіраўніцтвам вядомага вучонага Міхася Ткачова. Даследчык зрабіў некалькі шурфоў, каб высветліць глыбіню падмуркаў замкавых вежаў і сцен. Аднак археалагічных знаходак было няшмат.

Летам 1985 года ў Крэва прыехала вялікая археалагічная экспедыцыя, якую ўзначалілі Міхась Ткачоў і Алег Трусаў. Упершыню на замкавым двары пачаліся шыракамаштабныя раскопкі, у якіх бралі ўдзел студэнты гістарычнага факультэта Гродзенскага універсітэта і Мінскага педінстытута. Вялікі раскоп быў закладзены на замкавым падворку непадалёку ад Княскай вежы. Адразу пад дзірванам былі знойдзены абгарэлыя дошкі падлогі і под кафлянай печы. Падлога драўлянага будынка, які некалі тут стаяў, была зроблена з тоўстых сасновых дошак шырынёй 20—25 сантыметраў. Захаваліся таксама камяні, якія падкладалі пад драўляны зруб. Будынак меў невялікія памеры (шырыня каля 5 метраў). Ацяпляла яго кафляная печ, под якой быў складзены з камянёў на гліне. Археолагі сабралі тут вялікую колькасць кафляў з роўнай паверхняй, без рэльефу і малюнкаў, пакрытых светла-зялёнай палівай. Такая кафля ўжывалася ў другой палове XVIII — пачатку XIX стагоддзяў.

Пасля таго, як разабралі завал з паліванай кафлі, пад ім была знойдзена непаліваная рэльефная кафля першай паловы XVIII стагоддзя, аздобленая раслінным дывановым арнаментам. Відаць, печ стаяла на гэтым месцы доўга і на працягу XVIII стагоддзя некалькі разоў перакладалася. У запаўненні жытла, акрамя кафлі, аконнага шкла і глінянага посуду, знойдзены кавалкі фаянсавых начынняў, уласцівых для XVIII стагоддзя. Магчыма, што менавіта гэта пабудова згадваецца ў апошнім інвентары Крэўскага замка 1789 года.

Крыху глыбей у нашых раскопках мы прасачылі рэшткі кафляных печаў канца XVI — XVII стагоддзяў, а таксама каменныя падмуркі (камяні, што кламіся пад ніжнія бярвёны) ад тагачасных драўляных будынкаў. У гэты час у Крэўскім замку была распаўсюджана каробкавая кафля як непаліваная (тэракотавая), так і зялінапаліваная з квадратнай або прамакутняй вонкавай пласцінай, па краі якой праходзіла рамка шырынёй 0,6—1 сантыметр. Па месцы ў абляноўцы печаў знойдзеная кафля падзяляецца на сцянную, гзымсавую, паясковую, кутнюю, каронкі, альбо гарадкі. Крэўская кафля аздаблялася розным арнаментам: геаметрычным (кропачкі-зорачкі, як на суседняй гальшанскай ці ашмянскай кафлі, ці квадрат з кропачкамі ў цэнтры) ці раслінным (матывы, пабудаваныя па прынцыпу чатырохскладовай сіметрыі, калі па чацвёртай частцы выявы можна аднавіць цалкам увесь малюнак; выява букета кветак у вазоне, а таксама выявы валошак). Некаторыя кафлі мелі выявы гербаў гаспадароў будынкаў з манаграмамі ўладальнікаў. Гзымсавыя, а таксама паясковыя кафлі аздабляліся рэльефнымі малюнкамі галовак анёлаў з крылцамі. Найбольшую цікавасць сярод знойдзеных экземпляраў уяўляе паясковая кафля памерам 10х18 сантыметраў з малюнкам палявання з сабакамі на аленя. Аналагічная кафля знойдзена падчас раскопак старога замка ў Гродне, а таксама ў Навагрудку.

На глыбіні 70—90 сантыметраў прасочаны глінабітныя развалы больш старажытных печаў, што былі складзены з гаршковай кафлі. Калі зрабіць стратыграфічны (гэта значыць паслойны) аналіз сценак археалагічных раскопаў, якія складаюцца з культурнага слоя (глебы з рознымі будаўнічымі рэшткамі, што адклалася на замкавым двары пачынаючы з XIV стагоддзя), можна адразу вылучыць самы старажытны слой цёмнага колеру таўшчынёй ад 20 да 40—50 сантыметраў. У яго верхняй частцы было шмат вугалляў і попелу. Менавіта ў гэтым слоі атрыманы ў асноўным знаходкі XIV—XV стагоддзяў: каменныя ядры, вялікамерная цэгла, паўцыркульная дахоўка, непаліваны гліняны посуд і гаршковая кафля. Праслойку вугалю і попелу можна аднесці да штурму і пажару замка ў 1433 годзе.

Значную цікавасць уяўляе калекцыя керамічных вырабаў, якімі здаўна славіліся крэўскія ганчары. Зроблены на ручным ганчарным крузе непаліваны посуд XIV—XVI стагоддзяў мае дамешкі жарствы ў глінянай масе і носіць на сабе сляды абварвання. На донцах некаторых гаршкоў XIV—XV стагоддзяў ёсць ганчарныя клеймы. Найбольш распаўсюджаныя тыпы арнаментаў — шматрадны стужкавы, хвалісты, лукатка, наколы. К канцу гэтага часу крэўскі посуд вылучаецца разнастайным асартыментам: гэта розныя па памерах і афармленню венца гаршкі без ручак, міскі ў форме абрэзанага гаршка ці са злёгку або амаль гарызантальна адагнутым венцам (аналогіі вядомы па матэрыялах з Гродна, Ліды, Крычава: часам першы тып місак выкарыстоўваўся як друшляк), макотры з аналагічна афармленым ці проста зрэзаным краем з наляпным жгутом і без яго, розныя па глыбіні і дыяметры венцаў круглыя патэльні (накшталт віцебскіх) з вертыкальным венцам (апошнія маглі мець полае дзяржальна). У гэты ж час ужываецца характэрнае для гарадоў Панямоння начынне з вертыкальным горлам (прататып пазнейшых гладышоў).

У XVI—XVII стагоддзях да непаліванага дадаецца разнастайны сталовы і кухонны паліваны посуд (паліва зялёная і карычневая розных адценняў), звычайны для асартыменту гэтага часу ўсёй Беларусі: плыткія рынкі, што паступова змянілі патэльні без ножак, паліваныя і распісаныя па беламу ангобу каляровымі фарбамі пад бясколерную паліву талеркі і паўміскі розных памераў (паліваныя аздоблены шматрадным грабеньчыкам па борціку, а часам і канцэнтрычнымі кругамі з лукаткай паміж імі па донцы, як у магілёўскіх, мсціслаўскіх ці віцебскіх талерках), збаны з шырокімі ручкамі, гляк з носам-злівам і без яго, круглыя і авальныя біклагі з вушкамі для пасачка па баках; кубачкі і куфлі, а таксама разнастайны дымлены і чорнаглянцавы посуд (талеркі, місачкі з вузкім гарызантальным борцікам і міскі з вертыкальным борцікам, упрыгожаныя галінкавым ці сеткавым глянцавым арнаментам).

У другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзяў беларускія ганчары аднавілі тэхналогію вытворчасці маёлікі. З першай паловы XVI стагоддзя вядомыя першыя паліхромныя кафлі, а крыху пазней пачынаюць вырабляць і маёлікавы посуд, выяўлены амаль ва ўсіх беларускіх гарадах і мястэчках. Прыёмы нанясення каляровых паліваў на бытавое начынне часта выкарыстоўваліся тыя ж, што і ў кафлярстве. Густую эмаль (паліву) тоўстым слоем наносілі проста на чарапок пасля лёгкага ўтульнага абпалу. Пасля другога абпалу пры тэмпературы 950 градусаў фарбы набывалі прыемны бляск, а чыстыя, насычаныя жоўты, сіні, белы, зялёны колеры талерак, місак, куфляў, збаноў выдатна выконвалі сваю дэкаратыўную функцыю. Але пры такой тэхналогіі разліў эмалі атрымліваўся няроўны, месцамі паліва злушчвалася, ішла пухірамі.

Магчыма, што ўдасканаленне тэхнікі роспісу ангобамі пад паліву спрыяла развіццю прыёмаў дэкаравання маёлікі. Як сведчыць археалагічны матэрыял Мірскага і Крэўскага замкаў, а таксама Віцебска, беларускія цаніннікі XVII стагоддзя валодалі навыкамі роспісу пэндзлем непасрэдна па чарапку і па сырой эмалі. Добрым прыкладам такога жывапісу можа паслужыць вялікі паліхромны з прамакутняй па форме ручкай, што знойдзены ў Крэўскім замку ў слаях канца XVI — першай паловы XVII стагоддзяў. Уся яго паверхня, за выключэннем ручкі, аздоблена раслінным арнаментам.

Акрамя посуду, крэўскія раменікі выраблялі паліваныя скарбонкі і люлькі, дымленыя падсвечнікі, тэракотавыя біканічныя і цыліндрычныя цяжары для рыбацкіх сетак, а таксама дзіцячыя цацкі. Пазней, у XIX — пачатку XX стагоддзяў, мястэчка Крэва стала буйным цэнтрам ганчарнай вытворчасці.

Цікавую калекцыю складаюць вырабы з жалеза. Акрамя розных рамесных прылад, свярдзёлкаў, шылаў, іголак знойдзена 20 нажоў з вузкім і шырокім лязом. Цікавасць уяўляюць розныя тыпы замкоў, сярод якіх ёсць цыліндрычны XIV—XV стагоддзяў, трохкутні замок першай паловы XVII стагоддзя і вінтавы XVIII—XIX стагоддзяў. У слаях XVII стагоддзя археолагі натрапілі на цэлую звязку ключоў (13 штук) розных памераў. Шмат сабрана скабяных вырабаў. Найбольш ранняй з'яўляецца эсавідная завеса з перакручанымі завіткамі XVI стагоддзя, выкананая ў познегатычным стылі.

Да XIV—XV стагоддзяў адносіцца масіўная спражка паўкруглай формы з фігурным выступам для зашчэпкі. Такія спражкі насілі багатыя гараджане Рыгі. Агонь жыхары Крэўскага замка здабывалі пры дапамозе крэсіва. Адна з такіх прылад, што мае два лёзы, ляжала ў слаях XVII стагоддзя. У XVI—XVIII стагоддзях абаронцы і жыхары Крэўскага замка насілі скураныя боты з высокімі абцасамі, якія падбіваліся спецыяльнымі трохшыннымі падкоўкамі. Іх археолагі сабралі каля чатырох дзесяткаў.

На ўзбраенні салдат Крэўскага гарнізона была як халодная, так і агнястрэльная зброя. Да XVII стагоддзя абаронцы замка карысталіся лукамі. Пра гэта сведчаць тры чарашковыя наканечнікі стрэл. На сценах замка заўсёды стаялі гарматы і балісты, якія да XVI стагоддзя стралялі каменнымі ядрамі. Знойдзеныя ў замку ядры мелі як круглую, так і авальную формы. Дыяметр найбольш вялікіх экземпляраў дасягае 25—26,5 сантыметра.

На замкавым двары заўжды знаходзіліся ўзброеныя вершнікі. Археолагі знайшлі шпору XVI стагоддзя, жалезныя кольцы ад цугляў, падковы, каваныя конскія путы і цэлую скрабніцу для чысткі каня. Яна ўяўляе сабою жалабок з зубчатымі краямі, да якога прымацаваны чаранок для драўлянай ручкі, якая не захавалася.

(Заканчэнне на 8-й стар.).





**Высока ацанілі творчасць мінскага мастака Дзмітрыя Маслія французскія знаўцы жывапісу. Тры яго работы будуць неўзабаве экспанавацца на прэстыжнай выставе Салон-Палац у Парыжы. Тут звычайна прадстаўляюцца лепшыя творы французскіх мастакоў у галіне жывапісу, мініяцюры, скульптуры, графікі. Як правіла, у экспазіцыю ўключаюцца некалькі работ замежных аўтараў па прапанове аўтарытэтнага журы Міністэрства культуры Францыі. Сёлета гэтага гонару ўдастоіўся і мінскі майстра.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Дзмітрый МАСЛІЙ; работа Д.Маслія "Сон без сноў".**

**Фота А.ТАЛОЧКІ.**

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ ПРА ЦЫГАНОЎ?

Якая культура ў рома? На гэтае пытанне вам адкажа любы член краязнаўчага клуба "Рома", які нядаўна пачаў працаваць у Віцебску. Падобнае аб'яднанне цыганоў пакуль адзінае ў Беларусі.

У наш час Адраджэння нацыянальныя меншасці фактычна забыты. А ў цыганоў — самабытная культура, цыганская мова, якая мае мноства дыялектаў. У 1926 годзе ў нас была ўведзена цыганская пісьменнасць. Вывучэнню і прапагандзе цыганскай спадчыны, умацаванню сувязей паміж цыганамі і беларусамі і прысвечана дзейнасць клуба "Рома".

Продкі рома — выхадцы з Індыі І тысячагоддзя нашай эры. Звыш 10 мільёнаў цыганоў, столькі ж, як і беларусаў, налічвае сёння планета Зямля. У Беларусі жыве звыш 12 тысяч нашчадкаў рома, якія перавандравалі да нас яшчэ ў XV—XVII стагоддзях праз Польшчу, Германію і Венгрыю.

Гісторыя Беларусі ў розныя часіны ведала вандроўных, паўвандроўных, аселых, паўаселых рома і метысаў пераважна цыганоў з беларускамі. Сярод цыганскіх паселішчаў у гісторыі Беларусі асабліва вядомыя вёскі Цыганы Гарадоцкага, Завячэлле Лепельскага, Лапатнікі і Мяшчэнцы Сенненскага, Калодзішчы Мінскага раёнаў, пасёлкі Паўночны ў Мінску і Цітаўка каля Бабруйска.

У 1927 годзе на сядзібе Міхалова Віцебскага раёна быў створаны першы ў СССР цыганскі калгас "Новае жыццё". У 30-я гады паблізу Стрэшына Жлобінскага раёна існаваў таксама цыганскі калгас, а ў Віцебску — цыганская сярэдняя школа. У пачатку 60-х гадоў у Дзяржынску працаваў цыганскі ансамбль песні і танца. Спадчына рома не павінна быць забыта намі ў канцы XX стагоддзя, каб перадаць яе нашчадкам у XXI стагоддзі.

Канстанцін КАРНЯЛЮК,
краязнаўца.

# ЗНОЙДЗЕНА Ў КРЭЎСКІМ ЗАМКУ



(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Да ювелірных вырабаў можна аднесці два медныя пярсцёнкі XV—XVI стагоддзяў.

Сярод насельнікаў замка было шмат даволі заможных людзей. Гэта яскрава пацвердзілі археалагічныя раскопкі. Толькі ў 1985 годзе было знойдзена 17 сярэбраных і медных манет. Гэта палугрошы Яна Ольбрэхта і Сігізмунда II Аўгуста, двайны дэнарый 1569, соліды часоў Стэфана Баторыя, Сігізмунда III Вазы і Яна Казіміра, рыжскія соліды XVII стагоддзя (што сведчаць аб трывалых сувязях з Прыбалтыкай), а таксама дзве медныя расійскія дзяньгі 1748 года чаканкі.

Аб шырокіх гандлёвых сувязях жыхароў Крэва з краінамі замежжа таксама сведчыць калекцыя імпартнага шклянога посуду. Гэта кавалкі шыкоўнай вазы для кветак, сценкі якой былі аздоблены рэльефнымі вертыкальнымі і гарызантальнымі спіральнымі палоскамі малочнага колеру. Тулава вазы ўпрыгожвалі наляпныя, адціснутыя ў спецыяльнай форме маскароны. Мяркуючы па характару дэкору, гэта начынне магло быць зроблена ў Іспаніі ў канцы XVI стагоддзя. Значная колькасць імпартнага шкла зроблена ў Венецыі. Гэта флаконы бясколернага шкла з філігранным дэкорам, збаночак з празрыстага сіняга шкла з адмысловай ручкай, талерка з глушонага малочнага шкла і фрагменты цыліндрычных начынняў з празрыстага ці фіялетавага шкла. Відаць, з рук нямецкага шкловыдзімальшчыка выйшаў фрагмент рэльефнага начыння, зробленага са светла-жоўтага, празрыстага шкла.





Да XVII стагоддзя адносіцца шкляны посуд, упрыгожаны гравіроўкай. Гэта стопкі бясколернага шкла з гравіраваным пасам па краі і фрагменты флакона з празрыстага жоўтага шкла, гравіраванага раслінным арнаментам.

Шырокі асартымент шклянога посуду, знойдзенага ў Крэве, зроблены беларускімі гутнікамі. Гэта начынне для захавання і перавозкі вадкасці (кварты, паўкварты, бутэлькі, бутлікі, флягі і флаконы), а таксама сталовы і аптэчны посуд (стопкі, шклянкі, куфлі, бакалы, келіхі). Археолагі сабралі некалькі соцень кавалкаў прамавугольнага і круглага аконнага шкла XVI—XVIII стагоддзяў жоўтага і светла-зялёнага колеру.

Маецца ў археолагаў і калекцыя касцяных вырабаў. Гэта касцяныя пакладкі, ручкі відэльцаў і нажоў. Значную цікавасць уяўляе вялікая касцяная люлька, аздобленая адмысловым арнаментам. Калекцыю астэалагічнага матэрыяла апрацавала археолаг з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі спадарыня Александровіч. Знойдзеныя косткі некалі належалі свойскай жывёле (коні, каровы, авечкі, свінні і козы) і дзікім звярам, на якіх палявалі насельнікі Крэўскага замка. Ахвярамі іх паляванняў былі ласі, зубры, дзікі і казулі.

Такім чынам, крэўская зямля падарыла нам значныя археалагічныя скарбы, якія сведчаць аб тым, што замкавы падворак быў заселены з XIV па канец XVIII стагоддзяў і тут адбывалася інтэнсіўнае жыццё, нягледзячы на шматлікія войны і пажары.

**Алег ТРУСАЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэканструкцыя Крэўскага замка (паводле М. Ткачова); ключы XVII стагоддзя, знойдзеныя ў адной звязцы; паліваная кафля з Крэўскага замка. Канец XVI стагоддзя. Раскопкі А. Трусава.**

## "БОНСКАЕ ЛЕТА-93"

Дні Мінска ў Боне ў рамках праграмы "Бонскае лета-93" пачаліся ў першы дзень восені. Надвор'е таксама не адпавядала назве свята: горад сустрэў гасцей халодным восеньскім даждлом. Але забыцца пра ўсе непрыемнасці дапамагла публіка. Хяця на вуліцах не было афіш, ужо ў першы дзень фестывалю на канцэрце Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Генадзя Цітовіча ў царкве на рыначнай плошчы не было свабодных месцаў, а само выступленне выклікала авацыю. Таксама вельмі цёпла гледачы сустрэлі канцэрты ансамбляў "Класік Авангард" і "Свята", "Агмень", выканаўцаў класічных твораў, якіх аб'яднала праграма "Выдатныя салісты".

Акрамя гэтага ў праграму фестывалю ўвайшоў паказ беларускіх фільмаў, тэатральных спектакляў і кніжная выстава.

**Яўген ПАМЯРАНЦАЎ.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Калі вы хочаце і надалей атрымліваць нашу газету, паклапаціцеся, калі ласка, аб падпісцы на "Голас Радзімы" на 1994 год. Падпісная кампанія пачалася ўжо з 1 верасня і працягнецца да сярэдзіны лістапада. Але не адкладвайце справу на "потым". Лепш зрабіць гэта загадзя.**

**Усе даныя аб "Голасе Радзімы" ёсць, вы іх знойдзеце і ў рэспубліканскім, і ў каталогу СНД. Кожны дзень вашага прамаруджвання — лішні крок да магчымасці страціць сувязь з "Голасам Радзімы", адзінай рэспубліканскай газетай, якая жыве і працуе як для замежных суайчыннікаў, так і для нашых суграмадзян.**

**Раілі б таксама тым, хто купляе газету "Голас Радзімы" ў кіёсках "Саюздруку", падпісацца на нашу газету. Гэта гарантыя таго, што "Голас Радзімы" заўсёды будзе з вамі.**



## *ВЕДАЙ НАШЫХ!*



**Чэмпіёнкай Еўропы па барацьбе самба вярнулася з італьянскага горада Турына наша зямлячка Іна КАЗАНЦАВА (на здымку). Яна выступала ў вагавой катэгорыі да 64 кілаграмаў і заваявала "золата".**

**Цяпер Іна адпачывае ў бацькоўскім доме ў вёсцы Касцюшкавічы Крычаўскага раёна. Пасля вялікіх нагрузак, нервовага напружання і далёкай дарогі лепш за ўсё правесці час у вясковай цішыні, сярод родных.**

**Фота В. БЫСАВА.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Індэкс 63854. Зак.1333.
Падпісана да друку 20. 09.1993 г.